*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 10(44). Кастрычнік

## Ратуша, 1943 год

Гэты здымак фатограф Язэп Шыманчык зрабіў у 1943 годзе падчас нямецкай акупацыі. На ім бачым частку будынка былой ратушы (цяпер у ім бібліятэка). Звяртае на сябе ўвагу вялікае акно на першым паверсе каля ўваходу. З'явілася яно ў міжваенны час і відавочна псавала выгляд фасаду. Не дзіўна, што ў пасляваенныя гады яго зноў перарабілі.

Гэты факт — штрышок да агульнай карціны. Будынак былой ратушы за сотні гадоў існавання мноства разоў перабудоўваўся. І сляды некаторых гэтых "аперацый" добра бачныя і сёння.

На фрагменце здымка Шыманчыка, які адшукаўся ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў, бачым частку былой Параднай вуліцы. Слонімцы спяшаюцца па сваіх справах, некаторыя спыняюцца каля кіёска. У кадр трапілі маладыя дрэўцы, якія раслі на шырокіх ходніках.

Будынкі злева не захаваліся. Яны пацярпелі падчас баёў ліпеня 1944-га. У пасляваенныя гады іх зруйнавалі, каб узвесці новыя дамы. Вуліца назаўжды страціла былое аблічча.

●Сяргей Ёрш

# Юбілей краяўнаўчага музея

20 верасня прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя 90-м угодкам з часу заснавання Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя Язэпа Стаброўскага. Гэта — круглы стол "З гісторыі Слонімшчыны" і ўрачыстае мерапрыемства ў драматычным тэатры.

Музей стварыў краязнаўца і археолаг Язэп Стаброўскі на аснове сваёй каштоўнай калекцыі. Яго адкрыццё было прымеркавана да наведвання нашага горада прэзідэнтам Польшчы.

## Новы помнік

У нашым горадзе з'явіцца яшчэ адзін помнік — дзеячу ВКЛ, слонімскаму старасце Міхалу Казіміру Агінскаму (скульптар — Уладзімір Вількіцкі). Разглядаліся некалькі месцаў усталявання помніка. Было вырашана не ўсталёўваць яго ні ў гарадскім парку ці ў скверы па Першамайскай вуліцы. Перавагу аддалі пляцоўцы па вуліцы Васі Крайняга паміж будынкамі Белаграпрамбанка і Беларусбанка. Ініцыятар — грамадскае аб'яднанне "СлонімКаналАгінскага".

## Асвяцілі новую праваслаўную капліцу

У Слоніме каля скрыжавання Чырвонаармейскай і Шасейнай вуліц, каля Баранавіцкага моста, асвечаная праваслаўная капліца (чамусьці, у гонар мурамскіх святых, а не беларускіх, што было б лагічна і правільна). Яна будавалася з 2016 года. Атрымалася вельмі прыгожае збудаванне, якое ўпрыгожыла гэты раён горада. Цяпер кожны вернік можа памаліцца ў капліцы, паставіць там свечку.

## ХРОНІКА






# Зноў пра год заснавання Слоніма




Яшчэ краяўзнаўца і археолаг Васіль Супрун пісаў, што 1036 год — гэта памылковая дата заснавання Слоніма.[1] Але ў савецкія часы яна трапіла на знакі, якія былі ўсталяваныя на ўездах у наш горад. На іх было напісана: *"Слонім. Заснаваны ў 1036 годзе"* (некалькі фотаздымкаў ёсць у інтэрнэце, яны змяшчаліся і ў "СК"). У дакументальным фільме Васіля Афанасіка "Пеляніцын" (ён даступны на YouTube) былы дырэктар Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя Стаброўскага Ірына Шпыркова распавяла, адкуль з'явілася на знаках памылковая дата.[2] Здавалася, што ў гэтай гісторыі пастаўлена кропка. Аднак сёлета выйшла кніга краязнаўцы Сяргея Чыгрына "Гістарычная мазаіка Слонімшчыны"[3], у якой ужо на трэцяй старонцы змешчана зацемка "Гісторыя Слоніма пачынаецца з 1036 года". Аўтар піша, што *"гэта сапраўдная дата"*. Чаму? Таму што яна была на шыльдзе на ўездзе ў Слонім. Безумоўна, дзіўна, што былі праігнараваныя і ўспаміны Шпырковай, і меркаванне Супруна. Калі Чыгрын з імі не згодны, дык можна было б згадаць пра іншы погляд на дату. Але гэтага няма.

Аўтару гэтых радкоў давялося ў рэцэнзіі на кнігу "Гістарычная мазаіка Слонімшчыны" нагадаць, што 1036 год — дата памылковая.[4] Было спадзяванне, што Сяргей Чыгрын у наступных публікацыях гэта ўлічыць. Аднак праходзіць некалькі месяцаў і ў мінскім дзяржаўным выдавецтве выходзіць абноўлены варыянт "Гістарычнай мазаікі…" пад назвай "Слонімшчына. Гістарычныя нататкі".[5] У кнізе ёсць зацемка "Гісторыя Слоніма пачынаецца з 1036 года", а ў наступнай згадваюцца 1036-1040 гады са спасылкай на польскага гісторыка Яна Длугаша (а далей і нават 1038 год са спасылкай на археолага Георгія Пеха). І гэта пры тым, што ў "СК" быў артыкул-расследаванне, у якім сцвярджаецца, што ў Длугаша няма гэтай згадкі.[6] Шкада, што і ён быў праігнараваны.

Далей выходзіць другая частка "Гістарычнай мазаікі…".[7] У ёй змешчана іншае старое фота знака з 1036 годам і каментар: *"Гэты прыдарожны знак яшчэ раз даказвае, што Слоніму ў гэтым (2019) годзе спаўняецца 983 гады. Праз 17 гадоў — 1000-годдзе"*.[8] Сумна, спадарства! Насамрэч, дата на прыдарожным знаку НІЧОГА НЕ ДАКАЗВАЕ. Нават калі адшукаць і апублікаваць яшчэ дзясятак здымкаў гэтых знакаў у розных ракурсах. Сумна, бо кнігі з такімі довадамі чытаюць людзі, яны трапляюць у бібліятэкі. Умацоўваецца міфічная дата, якая ўжо была публічна прызнаная памылковай.

Пры гэтым відавочным фактам з'яўляецца існаванне Слоніма ўжо ў XI стагоддзі (пра гэта сведчаць археалагічныя дадзеныя). Аднак у гістарычных крыніцах няма тагачаснай даты, якую можна было б прызнаць, як дату заснавання нашага горада. Вось і слонімскія ўлады калісьці падтрымалі 1252 год, першую згадку ў летапісе пра горад, ды зрабілі яе годам яго заснавання. І святкуюць. У тым жа Іпацьеўскім летапісе пад тым жа годам згадваўся Ваўкавыск. Але ваўкавыскія ўлады ў 1990-я вырашылі "састарыць" горад і падтрымалі… 1005 год, дату сумніўную. У 2005-м святкавалі 1000-годдзе. Неяк несправядліва атрымліваецца. Магчыма, і мы, слонімцы, яшчэ перадумаем, вырашым у гэтым стагоддзі адзначыць 1000-годдзе Слоніма. Але наўрад ці будзем яго адлічваць ад 1036 года.

●Сяргей Ёрш

*[1] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 34.*

*[2] Гурскі Г. Пра знак "Слонім. Заснаваны ў 1036 годзе" // Слонімскі край, 2019, № 1(35). Студзень. С. 18.*

*[3] Чыгрын С. Гістарычная мазаіка Слонімшчыны. — Мінск: "Кнігазбор", 2019.*

*[4] Ёрш С. У нашым краязнаўстве не можа быць "зашмат кніг" // Слонімскі край, 2019, № 5(39). Травень. С. 18.*

*[5] Чыгрын С. Слонімшчына. Гістарычныя нататкі. — Мінск, "Беларусь", 2019.*

*[6] Ёрш С. Хто ж першы згадаў пра "палі Слонімскія" у 1940 годзе? // Слонімскі край, 2019, № 2(36). Люты. С. 1, 3-6.*

*[7] Чыгрын С. Гістарычная мазаіка Слонімшчыны. Кніга другая. — Мінск: "Кнігазбор", 2019.*

*[8] Тамсама. С. 94-95.*

# Вёска Вішава і ваколіцы




*Вялікія камяні ("каменная брама") каля вёскі Горка*

Шмат прыгожых вёсак ёсць у Беларусі, і ў кожнай — свая гісторыя, сваё мінулае. Малая радзіма мае асаблівае значэнне ў лёсе кожнага чалавека, бо родная вёска — гэта куточак, дзе гучыць мілагучная матуліна мова, дзе бяжыць сцежка, па якой ты пайшоў упершыню і працягваеш сёння свой шлях ад бацькоўскага парога.

На мяжы Слонімскага і Дзятлаўскага раёнаў у цішыні лясоў знаходзіцца родная і любая майму сэрцу вёска Вішава. Некалі мнагалюдная, шумлівая вёска сёння ператварылася нібыта ў бабульку, якая мае за плячыма багаты жыццёвы шлях, таму не спяшаецца жыць, а бярэ асалоду ад кожнага пражытага дня і ласкава дзеліцца з намі сваёй жыццёвай мудрасцю. У кожнай вёскі, як і ў людзей, свой лёс: адныя жывуць доўга, іншым наканавана сыйсці ў забыццё. Колькі вёсак, урочышч і ваколіц з унікальнай, багатай культурай і гісторыяй мы згубілі ў XX стагоддзі, а сёння, у XXI стагоддзі, мы з'яўляемся сведкамі, як у час постіндустрыяльнага грамадства і ўрбанізацыі паступова знікаюць апошнія беларускія вёскі. Разам з імі знікае нацыянальная культура і гістарычная памяць. І ўжо зараз нам усім трэба прыкласці намаганні і падумаць, як захаваць вёскі, а, значыць, захаваць сябе, захаваць сваю гісторыю і Бацькаўшчыну.

Ва ўсе часы галоўнае багацце вёскі — гэта людзі. Жыхары ў вёсцы Вішава гасцінныя, сціплыя, працавітыя і спагадныя людзі. У гады Другой сусветнай вайны яны праявілі сябе сапраўднымі патрыётамі, мужнымі абаронцамі сваёй зямлі. Дарогамі вайны прайшлі многія землякі, сярод іх і мой сваяк Васіль Дзмітрыевіч Брайчук, які быў прызваны ў Чырвоную Армію ў 1944 годзе, на 3-ці Беларускі фронт. 28 лістапада 1944-га ён быў узнагароджаны ордэнам Славы III ступені, 14 студзеня 1945 года — ордэнам Чырвонай Зоркі, 16 лютага 1945-га — зноў ордэнам Чырвонай Зоркі, за ўзорнае выкананне баявога задання камандавання ў барацьбе з нямецкімі захопнікамі, за праяўленую доблесць і мужнасць. Адгрымелі баі ў далёкім мінулым... Але назаўжды будуць жывыя ўспаміны і светлая памяць пра героя ў маёй сям'і.

Падчас вывучэння гісторыі вёскі я пазнаёмілася па перапісцы з цудоўнымі людзьмі — гісторыкам Віталём Красновым з расійскага горада

Ніжні Ноўгарад, які прапануе мясцовым уладам усталяваць мемарыяльную шыльду на будынку раённай бальніцы ў г. Лыскава ў гонар нашага вішаўскага доктара медыцыны Атона Гнаінскага, які там прывіваў ад воспы людзей. Я вельмі ўдзячна Святлане Міхалоўскай з Мінска, якая даслала мне матэрыялы пра ўладальнікаў вёскі Вішава ў XVIII стагоддзі: старасту вірыдымаўскага Тамаша, ротмістраў слонімскіх Тадэвуша і Антонія Дыбоўскіх. Удзячна я і прапраўнучцы Канстанціна Ксавер’евіча Гнаінскага Ганне Керсноўскай-Тылевіч з Польшчы, ад якой атрымала больш за 40 фотаздымкаў з сямейнага фотаальбома.

## “Сувеніры” са Скандынавіі

Некалі нашу зямлю ў далёкія часы пакрываў старажытны ледавік са Скандынавіі таўшчынёю ў сотні метраў. Ён то таяў, то зноў пераходзіў у наступ, пакуль прыкладна 10 тысяч гадоў таму не знік зусім, пакінуўшы нам на памяць свае “сувеніры” ў выглядзе камянёў, пагоркаў, узвышшаў, рэк і азёр. Ёсць яны ў Вішаве, Студзераўшчыне і Горцы.



*Калодзеж на крыніцы*

Старыя жыхары расказвалі фалькларысту Міхалу Федароўскаму: *“...З даўнейшых пор пасяліліся тут першыя людзі. Раней у кожным сяле ўсе насілі паясы — ці то на кірмаш, ці то ў дарогу. А па паясах пазнавалі, адкуль чалавек. Цяпер жа, як шмат людзей намножылася, дый парасходзіліся ўсюды па свеце, то і паясы памяшаліся. Так і не пазнаць, адкуль прыйшлі тыя людзі ў гэтыя вёскі”.*

А мясцовасць гэтую яны выбралі таму, што крыніцамі была прасякнута ўся зямля. Празрыстая вада валодала гаючай сілай: той, хто папіў яе, станавіўся дужым, дапамагала вада пры хваробах вачэй і ног. Таму па ваду сталі прыходзіць з далёкіх мясцін. А нямала людзей, пачуўшы пра лячэбнае дзеянне крынічнай вады, сталі тут сяліцца.

Так і ўзніклі ў Слонімскім павеце па суседстве тры вёскі — Вішава, Студзераўшчына і Горка (апошнія дзве цяпер у складзе Дзятлаўскага раёна).

Даўным-даўно ў вёсцы Горка студзёная вада выбілася з-пад дуба і забурліла. Вада вылечвала хваробы вачэй. І дубу, і крыніцы сталі пакланяцца людзі. І сёння людзі распавядаюць, што памыўшыся вадой з крыніцы, сляпым вяртаецца зрок, а кульгавыя пачынаюць хадзіць...

Назва вёскі Студзераўшчына ўтварылася ад слова “студня, студзёнка”, што азначае крыніца. Калісьці раней тут было шмат гаючых крыніц, але яны сышлі, калі людзі праводзілі меліярацыю. Тым не менш, усе спадзяюцца, што крыніцы вернуцца і зноў будуць лячыць людзей. Крынічная вада ў Вішаве і па сённяшні дзень шчодра дзеліцца з жыхарамі сваёй цудадзейнай сілай. Толькі вось бяда: жыхароў у вёсцы становіцца з кожным годам усё менш і менш. Каму ж вада будзе аддаваць сваю гаючую сілу?

Вёска Горка знаходзіцца на ўзвышшы, відаць, і назву сваю яна атрымала ад гары, размешчанай побач з паселішчам.

Сёння жыхары не памятаюць пра Завішаў, якія жылі тут 400 гадоў таму, але ў вёсцы захаваліся сведкі тых далёкіх падзей — вялізныя, парослыя мохам валуны. Ужо доўгі час, як было прынята хрысціянства, а ў Горцы народ усё пакланяўся сваім язычніцкім багам. Ля камянёў падчас развітання з нябожчыкамі ладзілі трызну, ці ваенныя спаборніцтвы, калі вершнікі на кані павінны былі праскочыць каменную браму. Легенда распавядае, што людзі аднойчы тут ўбачылі з‘яўленне Святога Георгія, што паспрыяла звароту мясцовых жыхароў у хрысціянства.*

Некаторыя людзі сцвярджалі, што бачылі яго зноў, а іншыя казалі, што гэта быў сам Пётр І на кані. Так ці не, сёння ніхто ўжо не ўзгадае, але ў студзені 1708 года падчас Паўночнай вайны ў Дзятлаве, дзе нейкі час знаходзіліся галоўныя сілы рускай арміі, цэлы тыдзень кватараваў расійскі цар. З прыняццем язычнікамі хрысціянства камяні сталі брамай праваслаўнай царквы, была пабудавана капліца і ўсталяваны крыжы, а 23 красавіка сталі святкаваць Юр’еў дзень. Кажуць, што раней праходзілі пад каменнай брамай у поўны рост. Але з таго часу, як адзін пан, жадаючы вылячыць сваю сляпую сабаку, правёў яе пад камянямі, валуны сталі асядаць і сыходзіць у зямлю.

●Святлана Брайчук

Працяг у наступным нумары

**Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. — Wilno, 1908. S. 73.*



ХРОНІКА

# Юбілей Аляксея Якімовіча

Слонімскі пісьменнік Аляксей Якімовіч 15 кастрычніка адзначыў 70-годдзе. Ён — ураджэнец вёскі Парэчча. Дзясяткі гадоў працаваў настаўнікам у школах Слонімшчыны. Удзельнічаў у грамадска-палітычным жыцці.

Кнігі Якімовіча рэгулярна выходзяць у мінскіх выдавецтвах. Гэта і мастацкая проза, разлічаная найперш на дзяцей, і навучальныя дапаможнікі. Пісьменнік выступае з публіцыстыкай, у якой уздымае важныя і актуальныя тэмы. Піша пра цяжкую сітуацыю беларускай мовы ў беларускай дзяржаве.

Віншуем Аляксея Мікалаевіча з юбілеем і жадаем яму плёну ў творчасці.

Рэдакцыя "СК"

*Фота: gymn1-slonim.by*

# Назва галоўнай плошчы

У кастрычніку на сайце газеты "Слонімскі веснік" прайшло галасаванне наконт афіцыйнай назвы "галоўнай плошчы Слоніма". Маецца на ўвазе плошча перад будынкам райвыканкама паміж вуліцамі Чырвонаармейская і Карла Маркса. Прапаноўваліся наступныя варыянты: Плошча Перамогі, Цэнтральная, Фестывальная, Маладзёжная, Чырвонаамейская. Кожны мог прапанаваць і свой варыянт. У галасаванні паўдзельнічала менш за дзве сотні чалавек. Амаль палова выказалася за Цэнтральную плошчу.

slonves.by

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты

*Працяг, пачатак у № 5-8, 2019*

У 84-м нумары газеты “Deutsche kriegszeitung von Baranowitschi” (“Нямецкая ваенная газета ў Баранавічах”) ад 18 кастрычніка 1916 года змешчаны артыкул унцер-афіцэра Вальтэра Фэста пра прыватныя друкарні ў Слоніме. Яны былі вельмі сціплыя. Не дзіўна, што немец называе ўладальнікаў друкарняў рамеснікамі.



### “Шабашнае мастацтва” ў Слоніме

Тут ёсць дзве друкарні. З адной я пазнаёміўся яшчэ летась, адразу пасля заняцця горада. Тады яна квітнела. На яе фасадзе горда красавалася шыльда з наступным надпісам: “Друкарня. Выдача гарбаты”. Ці слова “Друкарня”, ці “Выдача гарбаты” прыцягнула маю ўвагу, сёння я ўжо і не прыгадаю. У любым выпадку накіраваўся я да гэтай установы высакароднага мастацтва Гутэнберга і быў там узнагароджаны шклянкай гарачай, але жыдзенькай гарбаты.

Каля сцяны з шафамі для адзення, прадуктаў харчавання, посуду, паперы, кардону… заўважыў я і паліцы, дзе ляжалі шрыфты з рускімі і яўрэйскімі літарамі. У адным куце стаяў маленькі запылены друкарскі станок, які раней, відаць, ведаў лепшыя часы. Уладальнік прадставіўся як пачынаючы “майстар”, якога вайна прымусіла змяніць прафесію. Яго маладая жонка дала дзіцяці, якое плакала, шрыфты, але “цацка” немаўля не зацікавіла, і яно працягвала крычаць…

Хаця ў мяне не было ў друкарні ніякіх спраў, я прабыў там каля гадзіны ў аддзяленні “Выдача гарбаты”, пры гэтым з цікавасцю назіраючы за рамесна-сямейнай ідыліяй. Пазней з-за кепскіх санітарных умоў [нямецкая] камендатура закрыла аддзел “Выдача гарбаты”, але друкарня працягвала працаваць. Яна перамясцілася ў меншы пакой і перад уваходам з’явілася іншая шыльда: “Новая вялікая друкарня”.

Другая друкарня таксама мае шыкоўную шыльду, але і тут багатая шыльда не супадае з бедным унутраным убраннем. Тут таксама рамесна-вытворчае жыццё ідзе ўперамешку з сямейным. Гэтая ўстанова абсталяваная трохі лепш, чым папярэдняя. У насценных скрынях з розным інструментам можна было ўбачыць нейкія анучы, дзіцячыя цацкі і іншы хлам… Праход загароджвае дзіцячая каляска. У кутку стаіць вялікі цыгельны друкарскі станок. Папера ў іх дрэннай якасці, і бедны набор фарбаў дапаўняе інтэр’ер гэтай рускай* сучаснай шабашкі.

В.Ф.

У 86-м нумары “Deutsche kriegszeitung von Baranowitschi” ад 25 кастрычніка 1916 года была змешчана зацемка пра кінатэатр у нашым горадзе. Кіно ў той час яшчэ было нямое, таму суправаджалася жывой музыкай у зале.

### Слонім

Фатаграфія і кінематаграфія з’яўляюцца надзейным спадарожнікам нашых салдат на працягу гэтай вайны. У Баранавічах даўно маецца добра наведвальная кіназала. Зараз надышла чарга і Слоніма. І тут адкрыў свае дзверы кінатэатр, які наведваецца не толькі нашымі салдатамі, але і мясцовым насельніцтвам. Гледачы ўяўляюць сабой пярэстую карціну. Сярод нашай палявой уніформы можна бачыць мужчын і жанчын як у элегантных еўрапейскіх касцюмах, так і палякаў, і рускіх* у сялянскай, паношанай вопратцы. Ваенны музыкант акампаніруе ўсё, што паказваюць на экране.

Т.

Пераклаў
●Ігар Падгарадзецкі

**Нямецкія вайскоўцы ў гэтай і іншых публікацыях падзялялі слонімцаў-хрысціян на “палякаў” і “рускіх” г. зн. на католікаў і праваслаўных. — “СК”.*

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

*Працяг, пачатак у № 8-9, 2019*



## “Пералёт”

Восенню 1924 года жыццё Ксяневіча змянілася кардынальна. Ён добраахвотна перайшоў на савецкі бок мяжы. Яго першая крымінальная справа пачынаецца з паведамлення, што ў ноч з 7-га на 8-е кастрычніка ў вёсцы Верамейкі на 2-ю заставу 12-га Заслаўскага памежатрада з’явіўся нейкі Уладзімір Францавіч Паляшук. Пры ім было пасведчанне, выпісанае на імя Грача, начальніка Галоўнага штаба партызанскіх аддзелаў “ЗД”. Ён рашуча патрабаваў забяспечыць сустрэчу са знакавымі фігурамі тагачаснай савецкай палітыкі ў Беларусі — старшынём Цэнтральнага выканаўчага камітэта таварышам Чарвяковым і народным камісарам асветы таварышам Ігнатоўскім. Безумоўна, яго накіравалі ў адпаведныя службы дзяржбяспекі. З названымі дзеячамі пабачыцца яму не давялося. Мяркую, што кіраўнік Савецкай Беларусі застаўся ў невядомасці, хто і навошта да яго прыходзіў. А наркама Ігнатоўскага запрасілі даць тлумачэнні з нагоды такіх дзіўных заяў візіцёра.

У першай уласнаручнай заяве Грач паведаміў, што ён — афіцэр і сын кадравага афіцэра. Вучоба ў вайсковых вучэльнях, са шкадаваннем адзначыў ён, адарвала яго ад рэальнага жыцця, што і прывяло да памылковага палітычнага выбару. Але апошнія падзеі, змены ў жыцці па абодва бакі мяжы прымусілі перагледзець стаўленне да савецкай улады. Ад сябе асобна і ад імя арганізацыі “Зялёны дуб” ён звяртаецца да яе прадстаўнікоў з прапановай аб супрацоўніцтве. Грач запэўнівае патэнцыйных савецкіх хаўруснікаў у наяўнасці дастатковай сілы і жаданні *“быць карыснымі свайму народу... мы гатовыя на ўсё: перайсці мяжу і працаваць у савецкай Беларусі, працягваць работу ў Польшчы... Партыя гатова падрыхтаваць паўстанне“.*



Дастаткова аптымістычны жвавы тон гэтага звароту дае падставу думаць, што кіраўнік Галоўнага штаба баевікоў спадзяваўся на добры прыём і паразуменне. Ён паверыў у папярэднюю дамоўленасць. Грач патлумачыў, што *“не ведае, з якой нагоды камуніст Ігнатоўскі прапанаваў ім перамовы,.. але яны разлічваюць на агульную незадаволенасць сялянства, на папулярнасць атамана Дзергача і дапамогу савецкага ўрада”.*

Аднак дэ жа вю. За два гады да аперацыі “Пералёт”, 30 жніўня 1922 года, да савецкіх памежнікаў завітаў атаман Крук з жонкай і дзіцём. Парушальнік дзяржаўнай мяжы запатрабаваў сустрэчы са старшынём ДПУ Беларусі Янам Ольскім, які яго быццам бы чакае. Крук настойваў на тым, што яго пераход падрыхтаваны *“зацікаўленымі службамі”.*

Яшчэ ў пачатку года Крука неаднаразова заўважалі каля савецкай місіі ў Варшаве, у якую ён заходзіў. Атаман і не хаваў свае цесныя стасункі з гэтай установай. З сакрэтнай даведкі ДПУ па справе Крука вынікае, што прапановы аб паслугах і супрацоўніцтве ў гэты час літаральна сыпаліся ад кіраўнікоў “ЗД” адна за другой. Так, у сакавіку 1922-га замежны аддзел ДПУ (выведка) атрымаў афіцыйны ліст на бланку Сялянскай партыі за подпісамі старшыні Дзергача і чальцоў штаба, у тым ліку і Грача. Аўтары звароту ўказвалі на змены ў палітычнай арыентацыі сваёй арганізацыі і прапаноўвалі разам *“змагацца супраць панскага іга ў беларускіх паветах на польскім баку”.* У адказ чэкісты запатрабавалі прыслаць прадстаўніка “ЗД” для канкрэтнай размовы і нават гарантавалі пасярэдніку недатыкальнасць. Баевікі маўчалі да лета. У ліпеньскім пасланні атаманы папрасілі ДПУ накіраваць свайго чалавека ў Вільню *“для аказання матэрыяльнай і духоўнай дапамогі”.* З дапамогай не спяшаліся, на тым ліставанне спынілася. Аднак 28-га жніўня ў Мінску атрымалі тэлеграму начальніка сакрэтнага аператыўнага ўпраўлення ДПУ, у якой паведамлялася, што *“днямі прыбудзе прадстаўнік Партызанскай арганізацыі “ЗД” Крук з некалькімі атаманамі для*

# У засені "Зялёнага дуба". Атаман Грач

*перамоў на прадмет перанясення штаба "ЗД" ў Савецкую Беларусь".* З Масквы далі ўказанні *"ніякіх пагадненняў з імі не заключаць, высветліць пра дзейнасць арганізацыі, колькасць людзей, пункты пераправаў праз мяжу".*

Цесныя сувязі "ЗД" з другім аддзелам Польскага Генштаба не былі сакрэтам, і "шчырыя" прапановы партызан выклікалі насцярогу. Услед прыйшло данясенне з Варшавы аб намерах Крука з рэкамендацыямі *"шырока яго выкарыстаць".* Вялікай выгады ДПУ ў асобе перабежчыка не знайшло, хаця ён старанна выпісваў адмоўныя характарыстыкі паплечнікам і асноўныя этапы свайго жыццёвага шляху. Расчараваны следчы адзначыў, што падследны пакінуў *"уражанне прахадзімца, авантурыста і чалавека без усялякай грамадскай каштоўнасці".**

Як высветлілася, біяграфію Крук меў проста феерычную. Рускі, нарадзіўся ў 1892-м годзе ў Казані ў сям'і надворнага дарадцы, скончыў лясны інстытут. Служыў у белых, чырвоных, у польскай паліцыі, у другім аддзеле ПГШ. Сапраўднае імя і прозвішча — Канстанцін Апалонавіч Ведзюкоў — не ведала нават жонка. А свае опусы ў газеце *"Новое утро"* ён прэтэнцыёзна падпісваў "Вадзім Халодны". Пад гэтым псеўданімам выступаў на тэатральных падмостках. Такую асобу ў "ЗД" прывёў Антоній Касінскі, постаць таксама вельмі цмяная. Толькі прозвішчаў ён выкарыстоўваў не менш пяці. Як Іван Шуляк, выконваў пасярэдніцкую ролю паміж атаманам Махно і савецкай місіяй у Варшаве. Сцэнар быў падобны на зялёнадубскі. Махноўцы, у выпадку савецкай падтрымкі, быццам бы абяцалі арганізацыю антыпольскага паўстання на Галічыне. Інтрыга яшчэ і ў тым, што Махно і Дзяргач у адзін час знаходзіліся ў зняволенні ў Стржалкава.

Безумоўна, партызанскі рух меў патрэбу ў лідарах пэўнага псіхалагічнага складу і прыцягваў да сябе людзей з авантурнай жылкай. Атаманшчына была і сродкам самазахавання, і варыянтам самаарганізацыі некаторых груп насельніцтва па абодва бакі мяжы. "Палявыя камандзіры" ў гэты час амаль цалкам згубілі матэрыяльныя стымулы падтрымліваць польскія ўлады і адчувалі сябе дастаткова самастойнай палітычнай сілай. Адсюль і спробы гандлю з рознымі, нават супрацьлеглымі палітычнымі бакамі.

Самым вялікім расчараваннем чэкістаў у Мінску ў справе з Круком было тое, што гэты прайдзісвет, як высветлілася, ніякіх паўнамоцтваў ад кіраўніцтва "ЗД" не меў. Грач, дарэчы, ведаў, што Крук расстраляны 5-га траўня 1923 года разам з атаманам Самусевічам (прозвішча сапраўднае) у мінскай турме. Тым не менш, гісторыя паўтарылася.

Савецкая контрвыведка, не забываючы аб цесным супрацоўніцтве зялёнадубцаў з 2-м аддзелам Польскага Генштабу, паспрабавала падтрымаць гульню. Праз некалькі дзён да Дзергача


Нестар Махно

быў накіраваны кур'ер з лістом ад Грача. *"У Мінску быў прыняты, перамовы вёў згодна заданню, а для канчатковых перагавораў просіць прыбыць самаго Дзергача, а ў выпадку, калі яму не выпадае, прыслаць надзейнага чалавека...",* — апісваў у справаздачы апякун Грача ходу распачатай інтрыгі. У доказ сур'ёзных намераў гульцы з Вільні павінны былі прадставіць дакументы аб сваіх сувязях з польскай выведкай аж з 1920-га года. Чэкісты (гуляць дык гуляць!) нахабна патрабавалі інфармацыю пра Булак-Балаховіча і працу віленскай экспазітуры.

Як вынікае далей са згаданага дакумента, кур'ер вярнуўся ў Мінск праз шэсць дзён без доказаў злачыннай дзейнасці "ЗД" і 2-га аддзела, але з лістом Дзергача. Пасланне пераклалі на рускую мову і далучылі да справаздачы ў Маскву. *"Дарагі Грачок! —* бадзёра вітаў Дзяргач свайго паплечніка. *— Ліст твой атрымаў, усё, што ты пішаш, добра".* Кепска было тое, што кур'ер не перадаў газет — уся друкаваная прадукцыя ў той час была звышзапатрабаванай крыніцай інфармацыі, у тым ліку і для выведкі. Атаман запэўніваў магчымых хаўруснікаў у сваёй адданасці "справе рабочага класа" і, галоўнае, "закінуў" інфармацыю пра пераход разведчыкаў ад паручніка Зацвіліхоўскага Седзічына і Сакалова. Ліст да "дарагога Грачка" завяршаўся заклікам *"Нехай жыве незалежная Бацькаўшчына ад польскай няволі!".*

Ахоўнікі шэфа штаба "ЗД" успрынялі атаманскае пасланне як працяг гульні.

●Ніна Стужынская

Працяг у наступным нумары

**Крымінальная справа М. Крука // Архіў КДБ РБ.*

# Пра бібліятэку графаў Слізняў

Палац графаў Слізняў у Новадзевяткавічах. Здымак з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў

15 верасня ў эфіры тэлеканала АНТ выйшаў сюжэт, прысвечаны кнігазбору вядомых на Слонімшчыне графаў Слізняў. Яго назвалі *"шляхецкай бібліятэкай"*, якая была *"адной з найлепшых у Еўропе"*. У палацы Слізняў у Дзевяткавічах (цяпер — Новадзевяткавічах) на другім паверсе захоўвалася да 5 тысяч тамоў, што збіраліся на працягу некалькіх стагоддзяў. Падчас войнаў кнігазбор рабавалі, апошні раз — восенню 1939-га, калі на змену польскай прыйшла савецкая ўлада. Цяпер кнігі, якія ацалелі, захоўваюцца ў розных гарадах: і ў Беларусі, і ў замежжы.

Напрыклад, у фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі выявілі каля 80 асобнікаў з пазнакамі прыналежнасці Слізням. Самае каштоўнае сярод іх — каталог бібліятэкі ў Дзевяткавічах, складзены ў другой палове XIX стагоддзя. У ім зафіксаваная самая каштоўная частка кнігазбору — 722 назвы. Гэта — мастацкая літаратура, гістарычныя працы, кнігі па тэалогіі, геаграфіі і г. д.




*"Цуд, што ён захаваўся. Гэта ключ да таго кнігазбору, які фармаваўся на працягу трох стагоддзяў"*, — кажа загадчык аддзелам Нацыянальнай бібліятэкі Анатоль Сцебурака.

Яшчэ адзін каталог захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна. Ён быў створаны ў 1850 годзе. У рукапісе восем невялікіх старонак. У рэпартажы адзначылі, што дакумент *"60 гадоў таму"* перадалі са слонімскага музея. На рукапісе засталася беларускамоўная пячатка музея.

Пра бібліятэку і палац






у сюжэце АНТ расказвала Таццяна Ракуць, кіраўніца музея "Дыяменты даўніны" Новадзевяткавіцкай сярэдняй школы.

Дарэчы, у верасні ў слонімскім музеі дзейнічала выстава кніг з бібліятэкі графаў Пуслоўскіх, якія захоўваюцца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі.

●Генадзь Гурскі









ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Новае аблічча мястэчка

20 верасня ў Мінску ў Саўміне прайшло пасяджэнне рэспубліканскага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні ўрачыстасцяў. Яно было прысвечана Слонімшчыне, а больш дакладна — святкаваннню 550-х угодкаў з'яўлення Жыровіцкай іконы Маці Божай і 500-годдзю заснавання Жыровіцкага манастыра. Гэтая падзея адбудзецца 20 траўня 2020 года.


Звязда

Пасяджэннем у Доме ўраду кіраваў віцэ-прэм'ер Ігар Петрышэнка, які ўзначальваў і аргкамітэт па правядзенні ў Слоніме Дня беларускага пісьменства і друку. *"Жыровіцкая ікона шырока вядомая не толькі як цудатворны абраз, але і як унікальная мастацкая, гісторыка-культурная з'ява,* — цытуе словы Петрышэнкі БЕЛТА. — *Яна шануецца і праваслаўнымі вернікамі, і католікамі. З іконай непарыўна звязана гісторыя Свята-Успенскага манастыра,* [яго] *комплекс з'яўляецца адным з самых маштабных архітэктурных ансамбляў XVII-XVIII стагоддзяў на тэрыторыі краіны. За сваю гісторыю ён ні разу не закрываўся, захоўваючы пераемнасць традыцый на працягу пяці стагоддзяў".*

Урадам пастаўлена задача правядзення юбілейных мерапрыемстваў *"на высокім арганізацыйным узроўні".* І гэта не дзіўна. Яшчэ летам стала вядома з неафіцыйных крыніц, што ў Жыровічы ў траўні 2020-га прыедуць Аляксандр Лукашэнка, Уладзімір Пуцін і патрыярх Кірыл. На мінскім пасяджэнні аргкамітэта было пацверджана запрашэнне патрыярха. Больш таго, гаворка ідзе пра правядзенне ў Беларусі (на Слонімшчыне?) сінода РПЦ. Ужо цяпер зразумела, што чакаецца прыезд з замежжа шматлікіх іерархаў РПЦ, грамадскіх, культурных, палітычных дзеячоў, дыпламатаў. Атрымліваецца, што, дзякуючы жыровіцкім юбілеям, можна спадзявацца і на далейшае добраўпарадкаванне Слоніма.

Віцэ-прэм'ер звярнуў увагу на даўнюю праблему — недастатковае выкарыстанне турыстычнага патэнцыялу Слонімшчыны. Цяпер жа ставіцца задача прыцягнуць у Жыровічы турыстаў і выкарыстаць для гэтага будучыя святы. Мяркуецца, што будуць адмыслова арганізоўвацца экскурсіі ў Жыровічы.

*"Неабходна своечасова і якасна падрыхтаваць даведачна-інфармацыйныя матэрыялы па гісторыі манастыра і Слонімшчыны, змясціць іх на інфармацыйных рэсурсах, у тым ліку на сайтах замежустаноў, і не толькі ў рускамоўнай версіі",* — заявіў Ігар Петрышэнка. Паводле яго слоў, пра Жыровіцкую абіцель будзе шмат матэрыялаў у рэгіянальных, рэспубліканскіх і саюзных СМІ (у тым ліку і ў электронных). Можна чакаць з'яўлення кніг. Час для іх падрыхтоўкі яшчэ ёсць.

Ужо існуюць праект канцэпцыі святкавання жыровіцкіх юбілеяў і план мерапрыемстваў (яны падзяляюцца на свецкія і царкоўныя). Зразумела, што цэнтрам будзе Жыровіцкі манастыр. Але аргкамітэт збіраецца задзейнічаць усё мястэчка (аграгарадок) і, відаць, Слонім. А з сакавіка 2020-га ў Мінску, у шэрагу іншых гарадоў пройдуць тэматычныя навукова-практычныя канферэнцыі, літаратурныя чытанні, круглыя сталы, выставы, кінафестывалі і проста фэсты.

Атрымліваецца, што маштаб гэтага свята будзе значна большым за той, які мы пабачылі на Дзень беларускага пісьменства ў Слоніме. І гэта зразумела. Гэта не проста свята роднай мовы, якое вандруе з горада ў горад, а юбілей, які заўважаць ва ўсім хрысціянскім




## Новае аблічча...

свеце.

20 траўня 2020-га ў Жыровічах урачыста адкрыюць помнік Серафіму Жыровіцкаму (Шахмуцю). Цяпер узгадняецца дакументацыя.

Як піша "Гродзенская праўда", у пачатку кастрычніка старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў заявіў, што ў наступным годзе Жыровіцкі манастыр і ўсё мястэчка набудуць "новае аблічча", ад якога будуць "прыемныя ўражанні".



# Тунэль пад манастыром

У верасні на канале Віктара Раманава на YouTube пад відэа, якое прысвечана падземным тунэлям паміж храмамі ў Расіі, з'явіўся цікавы каментар. 53-гадовы Аляксей Воранаў падзяліўся сваімі ўспамінамі. У 1987 годзе ён быў тэхнічным супрацоўнікам у Міністэрстве хімічнага і нафтавага машынабудавання ў Маскве. І некалькі разоў падчас начных дзяжурстваў спускаўся ў падземны тунэль, які ў тым месцы праходзіў на глыбіні некалькіх дзясяткаў метраў. Ён быў пабудаваны з чырвонай цэглы, вышыня складала 5-6 метраў, шырыня — каля 10 метраў.

Далей Воранаў успамінае пра тое, што пазней пабачыў у Жыровічах. Жыровіцкую абіцель ён чамусьці называе "лаўрай".

"*Аналагічны тунэль бачыў пад Жыровіцкай лаўрай,* — піша Аляксей Воранаў. — *Ён быў значна меншых памераў, але па кладцы і стане вельмі падобны. Там быў харчовы склад манастыра. Адправілі мяне за саленнямі для аднаго скіта, у якім я быў паслушнікам. Мы манастырскія запіскі вычытвалі, а яны нам* [давалі] *ўсялякую ежу. Далі воз і сказалі, — набірай на што вока ляжа. Пакуль набіраў, заўважыў лесвіцу, якая сыходзіць уніз. Падумаў, можа там яшчэ што з ежы прыхавана. Але, спусціўшыся, трапіў у тунэль. Спытаў у насельнікаў, што за дзіва. Яны прамаўчалі. Маўляў, узяў, што трэба, і ідзі з Богам".*

Легенды пра падземныя тунэлі ў Жыровічах сапраўды існуюць і даволі даўно. На старонках "СК" публікаваўся дакумент 1914 года, у якім яны згадваліся. Але яшчэ ў той час афіцыйна заяўлялася, што пацверджанняў няма.**

●СЁ

*https://www.youtube.com/watch?v=EmW3acT2AFU

*** Ёрш С. Дакумент пра падзямеллі Слоніма і Дзярэчына // Слонімскі край, 2016, № 10. Лістапад. С. 3.*

ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Пра трываласць беларускай рэлігійнай традыцыі



У 1839 годзе была скасавана царкоўная унія. Ліквідатары беларускай царквы спадзяваліся, што разам з ёй ў нябыт сыдуць і нацыянальныя рэлігійныя традыцыі. Пасмяротны лёс шанавання памяці уніяцкага епіскапа Іякіма Цехановіча (Цеханавецкага) — цікавы прыклад трываласці беларускай рэлігійнай традыцыі. Уладыка Іякім, як пісаў базыльянін і царкоўны гісторык Ігнат Сцябельскі, вызначаўся вялікай богабаязню і святасцю жыцця. Епіскапам быў толькі тры з паловай гады, аднак у вачах людзей і Бога стаў святым.

Яшчэ уніяты дасталі парэшткі свайго епіскапа з склепа пад Успенскім саборам у Жыровічах. Гэта было абгрунтавана тым, што ён у сне камусьці з манахаў нібыта сам загадаў гэтак зрабіць (раней у гэтай жа капліцы пэўны час перахоўваліся мошчы Язафата Кунцэвіча).[1]

Царкоўны гісторык XIX стагоддзя Мікалай Дзікоўскі пацвердзіў гэта. Ён пісаў, што парэшткі епіскапа Цехановіча былі адкрыты для народа на загад царкоўных уладаў, бо *"Цехановіч з'явіўся ў сне аднаму пабожнаму старцу — манаху Жыровіцкага манастыра, а потым настаяцелю і іншым манахам"*.[2]

Ксёндз Уладзіслаў Талочка паведамляў, што калі ачышчалі склепы пад саборам ад пахаваных там законнікаў-базыльянаў і свецкіх людзей, дык былі знойдзеныя ў непарушным стане парэшткі грэка-каталіцкага епіскапа Іякіма: *"Можа і не трэба расказваць пра ўсялякія надпрыродныя феномены, якія пацвердзілі б і ўгрунтавалі веру ў святасць епіскапа, але калі праз пэўны час адкапалі і адчынілі яго труну, вачам прысутных прадставіўся ўражлівы від: цела ўладыкі Іякіма не падвяргалася разлажэнню, што, аднак, не з'яўляецца яшчэ доказам святасці, але павінна было б прымусіць царкву вывучыць справу бліжэй"*.[3]

Не на карысць версіі Талочкі кажа тое, што труну епіскапа не маглі выкапаць, бо труны жыровіцкіх базыльянаў проста ставіліся ў нішы каменных сутарэнняў, дзе яны тлелі, і на спарахнелыя парэшткі потым маглі паставіць новую труну.[4]

У 1893 годзе Мікалай Дзікоўскі стан шанавання парэштак епіскапа апісаў так: *"У адным з унутраных памяшканняў жыровіцкай саборнай царквы знаходзяцца нятленныя парэшткі Іякіма Цехановіча, Пінскага і Тураўскага уніяцкага епіскапа. Яшчэ зусім нядаўна гэтыя парэшткі стаялі ў храме цалкам адчыненыя і да нятленнага аблічча епіскапа прыкладаліся паломнікі, якія прыходзілі ў Жыровіцкі манастыр"*.[5]

У 1930-я парэшткі пінскага епіскапа вывучыў кс. Уладзіслаў Талочка. Ён пісаў: "На тле нястомных і дзіўных атак у прэсе і ў вусных выступах нашай моцна русіфікаванай праваслаўнай царквы на ўсё, што хоць трошкі можна нагадаць пра унію, ці дазваляе дапусціць што унія не была гэткая ўжо і нядобрая, здзіўляе тое, што праваслаўны народ разам з духавенствам у такім важным асяродку як Жыровічы, здаўна шануе святыя мошчы грэка-каталіцкага пінскага і тураўскага епіскапа Іякіма Цеханавецкага (ці Цехановіча)... Асаблівасцю гэтага культу ёсць тое, што… ніводным словам не згадваюць, што святы ўладыка Іякім быў самым прававерным грэка-каталіцкім епіскапам. Папраўдзе, спасылаюцца часам на класічнага ў гэтай галіне аўтара Сцябельскага, але не называюць нават імя епіскапа Іякіма каб прадухіліць любую цікаўнасць праваслаўных вернікаў да прадмету культу.

Выглядае гэта так, як быццам яны жадаюць сказаць праваслаўным беларусам, якія цягнуцца да Жыровічаў: дазваляем вам толькі маліцца да *"святителя Божего"* Іякіма, але не дазваляем вам ведаць, ні кім ён быў, ні ў што верыў, пра што думаў і што любіў, дзе і як працаваў…".[6]

Талочка пакінуў цікавейшае і, верагодна, адзінае апісанне парэшткаў Іякіма Цехановіча, якое, з-за яго вялікай каштоўнасці, я не магу не працытаваць цалкам: "Ад галоўнага ўваходу ва Успенскі сабор у Жыровічах, знутры з правага боку, ёсць каплічка, у якой пад харамі ў склепе знаходзяцца парэшткі ўладыкі Іякіма... Цікава, што грэка-каталіцкаму епіскапу да нашага часу праваслаўныя адпраўляюць паніхіду: штогод па два раза — 4 красавіка (дзень смерці епіскапа) і 9 верасня (дзень імянін). З якой мэтай гэта робіцца? Не хочацца верыць, што тут прысутнічаюць выключана ўтылітарныя моманты.

Парэшткі маюць колер цёмнага воску. Працэс муміфікацыі іх насамрэч вельмі цікавы. Як мне непасрэдна ўдалося ўстанавіць, час пашкодзіў парэшткі нязначна. Ногі высахлыя, аднак рукой прамацваюцца закамянелыя цягліцы і лыткі, якія маюць таўшчыню сустава рукі чалавека. Жывот нават ад лёгкай пстрычкі выдае рэха. Немагчыма даведацца, ці былі парэшткі набальзаміраваны, але, здаецца, не былі. Каб катэгарычна адказаць на гэтае пытанне, трэба было б вывучыць унутранасці, што не хацелася рабіць з-за павагі да памерлага, тым больш, што для гэтага трэба было б рэзаць епіскапскія шаты. Галава не злучана з тулавам, што трэба аднесці да часоў нямецкай акупацыі, калі немцы абшуквалі жыровіцкія цэрквы. Скура на галаве захавалася толькі ў некалькіх месцах, але твар, вушы, шыя ў добрым стане. Відавочна, што, як і заўсёды бывае, у носе выкрышыліся берагі ноздраў. Захаваліся вокавыя яблыкі. Вусны высахлі і агалілі вельмі здаровыя зубы. Захаваліся губы, яны нават маюць кармінавае адценне. Шыя выглядае так, што магла б дапамагаць пры вывучэнні анатоміі. Часткова захаваліся нават павекі вачэй.

Не бяруся судзіць, ці гэта прыродная з'ява, ці надпрыродная?

Добра, каб агульны культ святога епіскапа грэка-каталіцкай царквы яднаў два веравызнанні беларусаў. Аднак дарога да гэтага вядзе праз замоўчванне праўды, і хоць праўда ў кароткатэрміновым плане не патрэбная, але з-за інфармавання народа стане актуальнай".[7]

Капліца, дзе захоўваюцца мошчы, знаходзіцца з правага боку ад галоўнага ўваходу ў сабор, але насамрэч не пад харамі — яны месцяцца проста над уваходам. І трэба ўдакладніць, што ў праваслаўнай царкве па Іякіму Цехановічу служыліся паніхіды, як па спачылым, а не малебны, як належала б святому.

А. Каламыцкі паведаміў, што у 1964 годзе намеснік манастыра архімандрыт Антоні (Мельнікаў; у будучым мітрапаліт Мінскі) у сваёй магістарскай дысертацыі "Жыровіцкі манастыр у гісторыі заходніх рускіх епархій" прыводзіў гістарычныя звесткі пра епіскапа Іякіма і яго шанаванне. Такія паніхіды служыліся да пачатку 1990-х гадоў.

Успамін пра гэтыя мошчы з тае пары знік з памяці вернікаў, але мясцовае шанаванне мошчаў працягваецца ў асяродку манахаў і студэнтаў, якія маюць паслушэнства несці дзяжурства ў храме. Сярод шанавальнікаў мошчаў называюць нават праваслаўных архіепіскапаў.

●Леанід Лаўрэш,
г. Ліда

Заканчэнне ў наступным нумары

*[1] Каламыцкі А. Некалькі заўвагаў (да артыкула кс. Ул. Талочкі "Уладыка Іякім") // Наша слова, 2019, № 30 (1441), 24 ліпеня.*

*[2] Диковский Н. Іоаким Цеханович, епископ Пинский и Туровский (1717-1719) // Литовские епархиальные ведомости, 1893, №39. С. 328.*

*[3] Soloduch Ad. [Уладзіслаў Талочка]. Władyka Joachim // Pregląd Wileński, 1937, № 6. S. 6.*

*[4] Наша слова, 2019, № 30.*

*[5] Іоаким Цеханович, епископ Пинский и Туровский… С. 326.*

*[6] Władyka Joachim... S. 6.*

*[7] Тамсама. S. 6–7.*


*БЕЛТА*

ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Міністэрства культуры прыняло пастанову па Жыровічах

Зацверджаны праект зон аховы нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцяў аграгарадка Жыровічы Слонімскага раёна. Адпаведную пастанову прыняло Міністэрства культуры (№ 43 ад 4 верасня 2019 года), у кастрычніку яна была апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале Рэспублікі Беларусь і ўступіла ў сілу. Адзначаецца, што праект зон аховы быў распрацаваны на замову Слонімскага райвыканкама *“з мэтай забеспячэння захавання гісторыка-культурных каштоўнасцяў і іх навакольнага асяроддзя”.* Гэта было зроблена *“на падставе архіўна-бібліяграфічных і натурных даследаванняў, аналізу горадабудаўнічай сітуацыі і ландшафту”.*

У склад нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцяў, унесеных у дзяржаўны спіс, у Жыровічах уваходзяць: Ансамбль Свята-Успенскага манастыра: Успенскі сабор. Дэкаратыўнае аздабленне сабора: роспіс у консе “Спас Пантакратар”, арнаментальны дэкор на скляпеннях паўднёвай сакрысціі і ўсіх нефаў, іканастас, бакавыя алтары, Богаяўленская царква, Крыжаўзвіжанская царква, званіца, будынак




семінарыі, жылы корпус, гаспадарчыя пабудовы” катэгорыі “1”;

Свята-Георгіеўская царква. Алтар Свята-Георгіеўскай царквы” катэгорыі “2”;

Цэнтральная частка аграгарадка Жыровічы (улючна з тэрыторыяй Свята-Успенскага манастыра) катэгорыі “3”;

Брацкая магіла катэгорыі “3”.

●Генадзь Гурскі

*Национальный правовой Интернет-портал Республики Беларусь, 18.10.2019, 8/34699*

**Схема зон аховы гісторыка-культурных каштоўнасцей аг. Жыровічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці**

# Часопіс са зніклай бібліятэкі

Восенню 2019-га на сайце ay.by прадавалася падшыўка польскага часопіса за 1927 год з яўрэйскай бібліятэкі Слоніма. Гэта — *“Wiedza i Życie”* (“Веды і Жыццё”), адзін з найстарэйшых навукова-папулярных часопісаў у Польшчы. Ён быў заснаваны ў Варшаве яшчэ да Першай сусветнай вайны, існуе і цяпер.

Нажаль,невядома,якімчынам падшыўка трапіла ў Ваўкавыск. У савецкія часы знікалі і кнігі, і перыёдыка, якія выдаваліся пры польскай уладзе, паколькі лічыліся ідэалагічна шкоднымі. Аднак у некаторых сямейных бібліятэках такія выданні захоўваліся і захоўваюцца. Нярэдка іх ратавалі падчас “чыстак” у бібліятэках, ці нават пры іх ліквідацыі. Відаць, і гэтую падшыўку проста выкінулі на сметніцу, а нейкі былы гімназіст ці школьнік падабраў і захаваў. Для яго гэта была важная памятка пра часы маладосці.

●Генадзь Гурскі








УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім



*Працяг, пачатак у № 8-9, 2019 г.*

З першых старонак я настолькі захапіўся, што забыўся пра ўсё, што адбывалася навокал. Знікла ўсё. І пакутлівая геаметрыя, і сухая алгебра, і галаваломная арыфметыка, і з'едлівы Сцяпан Мацвеевіч у сваім сюртуку чыноўніка — усё знікла ў прорве. Я быў там, дзе здзяйсняліся падзеі, выбухалі бомбы, дзе паміралі тэрарысты, пра якіх я чытаў у брашуры, што хвалявала мяне. Пад ціхае перагортванне падручнікаў маіх суседзяў, пад стрыманы шэпат класа і рэзкія словы настаўніка, які тлумачыў тэарэму, я чытаў запоем гэтае новае для мяне адкрыццё. Дык вось дзе яна, сапраўдная, непадробленая і суровая праўда пра тое, што доўгія гады было няясна, туманна, заблытана. Цяпер ужо не са слоў абывацеляў, а з кнігі я ведаў, хто такія Карповіч, Сазонаў і Балмашоў, і навошта яны забівалі міністраў.

…Старонкі мільгалі за старонкамі; я не падымаў галавы, не мог адарвацца. Ці доўга так працягвалася, не ведаю, але мёртвая цішыня, якая раптоўна запанавала ў класе, і некалькі дзясяткаў вачэй, накіраваных у мой бок, прымусілі мяне падняць галаву і зірнуць на наваколле. Я літаральна аслупянеў — і, як загіпнатызаваны, застаўся нерухомы на месцы.

Нада мной стаяў злы настаўнік, які дрыжэў ад гневу і драпежным поглядам "пажыраў" злашчасную брашуру. Суседзі глядзелі на мяне з цікаўнасцю і трывогай. Не ведаю, ці быў падобны на кроліка перад пашчай удава, але халодны пот выступіў у мяне на ілбе. Думка пра тое, што мяне выключаць з вучэльні, маланкай бліснула ў мозгу і падалася мне пачварна-пакутлівай… Мне стала страшна не таму, што я даражыў вучэльняй і шкадаваў развітацца з нелюбімай матэматыкай, а ад таго, што выключэнне з вучэльні напярэдадні яе сканчэння было б вялікім ударам для маёй маці, якую я вельмі любіў. Яна марыла зрабіць з мяне адукаванага чалавека і траціла на гэта свае жабрацкія грашы…

— Паўтарыце тое, што я цяпер патлумачыў, — прышыпеў настаўнік.

Я маўчаў.

— Добра ж вы цікавіцеся ўрокамі! Пакажыце ж вось гэта, чым вы так захапіліся?

Ён схапіў з парты брашуру і, прачытаўшы загаловак, пазеляне́ў ад злосці. Ён не валодаў сабой.

— Дзе вы гэта ўзялі?.. Хто вам даў? — і, засыпаўшы мяне пытаннямі, ён стаў корпацца ў маёй шуфлядзе, адкуль выцягнуў яшчэ дзве брашуры: “Луізу Мішэль” і “Парыжскую Камуну” Канколі. З гэтымі трафеямі настаўнік пайшоў да стала, кідаючы на мяне шматзначныя погляды, якія не абяцалі нічога добрага. Я сядзеў, разгублены і прыціснуты, нібы вялізны цяжар зваліўся на мяне. Што цяпер будзе са мной? Выключаць, напэўна выключаць, — думаў я. Бо маё злачынства — факт, дагэтуль нечуваны і нябачны ў сценах вучэльні. Былі свавольства, буянства, бойкі, каверзы — яны ўціхамірваліся зменшэннем бала за паводзіны, і ўсё ішло сваім рэчышчам, згладжвалася. А тут чорным па белым: “Забойства трох міністраў”.

Рэшта ўрока прайшла вельмі млява. І ледзь ён скончыўся, настаўнік, схапіўшы брашуры і зірнуўшы ў мой бок, панёсся ў канцылярыю савета вучэльні. У класе пачалося ажыўленне. Вучні з шумам абмяркоўвалі інцыдэнт, які адбыўся, і абменьваліся меркаваннямі. Многія схіляліся да таго, што мяне выключаць, іншыя ж


QU'EST CE QUE L'ANARCHISME?

ЧТО ТАКОЕ АНАРХИЗМЪ?

В. ЧЕРТКОВА.

сцвярджалі, што выключаць не будуць, а зменшаць адзнаку за паводзіны. Я чакаў найгоршага, падрыхтаваўся да допыту, але мяне не выклікалі. Нарэшце, прайшоў і апошні ўрок і, калі мы апраналіся ў калідоры, выйшаў інспектар вучэльні Батурын, паглядзеў на мяне, пакачаў галавой і пайшоў.

На наступны дзень перад пачаткам урокаў мяне выклікалі ў канцылярыю савета вучэльні. За сталом сядзеў інспектар, акружаны выкладчыкамі, і глядзеў на мяне нейкім знежывелым тупым поглядам. Мяне пачалі пытацца, адкуль я ўзяў страшныя брашуры і ці ведаю я, што мне пагражае выключэнне і турма? Гэтага я чакаў. Але што я мог сказаць у сваё апраўданне? Усё адмаўляць не было сэнсу.

Я шчыра расказаў усю праўду, пазначыўшы, што брашуры купіў легальна ў кнігарні, зацікавіўшыся іх назвамі зусім выпадкова. Некалькі хвілін маё начальства ціха пра нешта раілася; пасля паклікалі мяне, інспектар агучыў сваю любімую пагрозу, калі быў усхваляваны: *“Няшчаснае стварэнне, адным узмахам пяра я зраблю вас няшчасным на ўсё жыццё!.. З воўчым білетам выганю з вучэльні!”.* Пасля паўзы працягваў: *“Не хапае яшчэ, каб вас арыштавалі, ды ў турму. Бо гэта ж будзе ганьба для ўсёй вучэльні!”…*

“А? Падумайце!.. Яму рэвалюцыі захацелася!.. Каб больш гэтага не было! Чуеце? Ідзіце!..”.

Я выйшаў з кабінета з маленькай надзеяй, што ўсё ж такі мяне не выключаць. Толькі за паводзіны мне знізілі [адзнаку] на адзінку, ды брашур не вярнулі. Увогуле аддзелаўся лёгка. Гэты факт астатніх таварышаў не напалохаў. Наадварот, мы станавіліся


МЫ, НИКОЛАЙ ВТОРЫЙ,

ИМПЕРАТОРЪ И САМОДЕРЖЕЦЪ ВСЕРОССІЙСКІЙ,

смелымі да дзёрзкасці. У класе адкрыта чыталіся пракламацыі, падчас пераменаў спяваліся рэвалюцыйныя песні. Настаўнікі пра гэта ведалі, але ніякіх скарпіёнаў супраць нас не пускалі. Наш выкладчык Лапа выдатна ведаў пра наша ўнутрытаварыскае жыццё. У мяне дагэтуль засталося перакананне, што ў самым нашым коле быў таварыш, які выконваў ролю даносчыка, не кажучы ўжо пра мноства іншых хлопцаў-нагаворшчыкаў. Лапа рабіў выгляд, што нічога не ведае і не бачыць: у сапраўднасці ён вельмі прыглядаўся да нашага жыцця, хаця здаецца і не шкодзіў нам. А прыглядацца было да чаго.

Учорашнія школьнікі, гарэзы, якія раней нічым не цікавіліся, акрамя заляцання да гімназістак, сёння разважаюць пра свабоду, пра гвалт, пра барацьбу з царызмам і яго звяржэнне. І гэта была не пустая юнацкая балбатня. Некаторыя таварышы, як Абрам Асакоўскі і Камянецкі былі ўганараваныя нават арыштам і правялі па сутак 7 у [паліцэйскім] участку. Педагогі, здаецца, пра гэта не ведалі.

Пра тое, як адбівалася рэвалюцыйнае бражэнне на вучнях, можна меркаваць па адным маленькім, але характэрным факце. Некаторыя таварышы ў тэмы сачыненняў, якія нам задаваліся па рускай мове, спрабавалі ўкласці відавочна рэвалюцыйны змест і адгукнуцца на сучаснасць.

*Працяг на ст. 20*

# Невядомая выява Сынковіцкай царквы

У пачатку кастрычніка на сайце racyja.com з'явілася зацемка пра адшуканую карціну беларускага мастака Васіля Гразнова (1840 — 1909). Высвятляецца, што ў 1867-м ён быў на Слонімшчыне, дзе намаляваў таямнічую Сынковіцкую праваслаўную царкву. Карціна захоўваецца ў абласным мастацкім музеі ў расійскім горадзе Ульянаўск. І толькі цяпер яна стала вядома ў Беларусі, і будзе выкарыстоўвацца ў навуковых і навукова-папулярных публікацыях.

Гразноў вядомы не толькі, як мастак, але і як краязнавец. Ён жыў і працаваў у Вільні, цікавіўся помнікамі архітэктуры колішняга Вялікага княства Літоўскага. Васіль Гразноў рэгулярна падарожнічаў па Беларусі. Менавіта ён знайшоў фактычна ў сметніцы знакамітае Тураўскае Евангелле. Мастак даследаваў і апісаў старажытную Каложскую царкву ў Гродне. Безумоўна, што і Сынковіцкі храм ён аглядаў. Магчыма, што захаваліся яго запісы.

●Генадзь Гурскі



**Баль Б. Карціна Сынковіцкай царквы 1867 года выяўлена ў Расеі // Радыё Рацыя, https://www.racyja.com/kultura/kartsina-synkovitskaj-tsarkvy-1867-goda-vyya/*

# Рэвалюцыйны Слонім

*Працяг, пачатак на ст. 18-19*

Вацлаў Юшкевіч, напрыклад, распрацоўваў зададзеную нам тэму "Раніца старасвецкіх памешчыкаў" па Гогалю і выказаў у сваім сачыненні цэлы шэраг настолькі арыгінальных і смелых рэвалюцыйных думак. Ён паказаў Афанасія Іванавіча і Пульхерыю Іванаўну тыповымі эксплуататарамі, дармаедамі, якія жывуць за кошт працы сваіх крэпасных, што цяжка было б паверыць, што гэта піша вучань гарадской вучэльні. Сачыненне Юшкевіча было прачытана настаўнікам і пасля перададзена школьнаму савету. Савет сшытак з сачыненнем затрымаў, прапанаваў аўтару напісаць новае сачыненне…

●А. Левандоўскі



"Слонімскі край" — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.